**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Са святам Уваскрашэння Хрыстова!

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 16 (576) 21 красавіка 2011 года | Кошт свабодны.

Øàðêîў÷ûíñê³ ðà¸í

# Ç íàäçåÿé íà ãàðàäæàí

■ Станіслаў Раманчук.

**Некалькі дзесяцігоддзяў запар пасля вайны вясковая моладзь імкнулася ў асноўным асесці ў пошуках лепшай долі ў вялікіх і малых гарадах.**

Глыбінка цяпер апусцела, патрабуе дапамогі адтуль, прыйшла пара гораду вяртаць свае даўгі перад вёскай. Сёлета кіраўніцтва Віцебшчыны вырашыла прыцягнуць для аказання дапамогі па добраўпарадкаванню сельскай мясцовасці буйныя гарадскія прадпрыемствы і арганізацыі. У прыватнасці, за Шаркоўшчынскім раёнам замацавалі індустрыяльны Наваполацк, адкуль мясцовы гаркамунгас з нафтаграда стаў апекуном Станіславаўскага сельсавета. Апроч давядзення да ладу цэнтра сельсавета, навапалачане са сваёй тэхнікай і працоўнай сілай заняліся дапамогай па зносу закінутых пабудоў у вёсках Жданы і Жукоўшчына. У апошняй з іх гараджане павінны дапамагчы вяскоўцам спілаваць старыя аварыйныя дрэвы і замест іх пасадзіць малодзенькія дрэўцы. Акрамя гэтага спатрэбіцца дапамога на акультурванню і навядзенню патрэбнага парадку на вясковых могілках. Вялікі аб'ём работ па праграме "Чыстае поле" ўжо выканалі насупраць будынку сельсавета, паблізу якога да нядаўняга часу быў непрыглядны малюнак. З'явіцца ў глыбінцы і адрамантаваныя агароджы каля жылых дамоў, палепшаныя дарогі. У гэтай справе апроч шэфаў з Наваполацка аказваюць дапамогу вяскоўцам і шэраг прадпрыемстваў і арганізацый з мясцовага райцэнтра.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Ïàäûõîäû ¢÷àðàøíÿãà äíÿ

■ Чэслаў Якубовіч

**З-за ўмоў вясны, якая прыпазнілася, сёлета сяўба яравых у самай паўночнай вобласці краіны пачалася са спазненнем.**

У ліку першых выйшлі ў поле гаспадаркі Докшыцкага раёна, дзе мясцовае сельгаспрадпрыемства "Агра-Бераснёўка" наведаў нават новы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Высокага госця са сталіцы зацікавіла найперш, як і ў савецкім мінулым, гатоўнасць хлебаробаў да адказнай кампаніі ў полі. Але і без такіх візітаў розных кантралёраў і правяраючых тут добра ведаюць, што і як рабіць на 1090 гектарах, якія трэба пасеяць. Да сяўбы ў гэтай гаспадарцы падрыхтаваліся як след. На палетккі выйшла новая тэхніка з актыўнымі і пасіўнымі плугамі, камнеўборачныя агрэгаты і сучасныя імпартныя сеяльныя агрэгаты "Лемкен". Іншая справа, што ў нас ніяк не могуць у кіраванні АПК і іншымі галінамі эканомікі адмовіцца ад адміністрацыйных рэгулятараў. З іншага боку, беларускаму прэм'еру замест паездак па палях лепей было б у гэты час вырашаць праблемныя пытанні з недахопам наяўнай валюты ў банках, ажыятажным попытам на цукар і алей і рэзкім павышэннем цэн на шэраг імпартных тавараў. Замест гэтага беларускі кіраўнік паслухаў даклады на месцы, прайшоўся па жывёлагадоўчаму комплексу, які яшчэ больш пачысцеў да прыезду высокіх гасцей. Пакуль жа ў нашай краіне больш на словах гавораць аб змяненні падыходаў да кіравання беларускай эканомікай, сведчаннем чаго сталі звышвысокія цэны на прылаўках.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ó÷àðçå... íà ãàç

■ Кастусь Александровіч

**Усяго толькі крыху больш 6 гадоў назад у Пастаўскі раён быў падведзены прыродны газ.**

Аднак за такі кароткі тэрмін перавагу і зручнасць гэтага паліва для спажыўцоў зразумелі многія і да даброт цывілізацыі зараз падключаны ў горадзе і раёне ўжо амаль 1300 індывідуальных жылых дамоў і кватэр. Больш таго, ўзнікла нават чарга на газіфікацыю, паколькі зарэгістравана яшчэ некалькі новых газавых кааператываў акрамя райцэнтра і ў гарпасёлку Варапаева, і ў вёсцы Камаі. Са згоды дзеючых кааператываў да існуючых сетак цяпер жадаюць падключыцца яшчэ сто новых сем'яў пастаўчан. Адначасова зараз праектуецца і новы газапровад ад Камаяў у напрамку да літоўскай граніцы ў гарпасёлак Лынтупы, дзе асноўным спажыўцом "блакітнага паліва" стануць мясцовы спіртзавод і некалькі шматкватэрных дамоў. Туды, па разліках работнікаў райгаза, траса газаправода будзе гатова да пачатку восені наступнага 2012 года. Як толькі адтаяла добра зямля, прадоўжыліся работы па газіфікацыі горада, дзе толькі адзін раён прыватнай забудовы, самы аддалены ад цэнтра, застаўся без сетак прыроднага газу. Акрамя гараджан сталі ўстанаўліваць у сябе дома газавыя катлы ацяплення і вяскоўцы, жыхары буйных паселішчаў Хаціль і Навасёлкі. Людзей прыцягвае тое, што толькі трэць кошту будаўніцтва аплочвае сам забудоўшчык, астатнія расходы бярэ на сябе дзяржава.

Zhenya для forum.onliner.by

# Лічба нумара

**11** – такой была, як павядамілі айчынныя і замежныя СМІ, першапачатковая колькасць загінуўшых у выніку жудаснага нядаўняга выбуху на сталічнай станцыі метро "Кастрычніцкая". Крыху пазней ужо ў бальніцы памерла яшчэ двое з пацярпелых і 32 чалавекі былі шпіталізаваныя ў цяжкім стане. Усяго ж у той жудасны красавіцкі вечар 11-га чысла ў эпіцэнтры падзей пасля страшнага выбуху ў апошнім вагоне цягніка знаходзіліся каля 3 тысяч мінчан і гасцей сталіцы, бо на той момант прыпаў якраз час пік.

Выканаўцы і заказчыкі гэтага бесчалавечнага акту дакладна разлічылі, дзе звычайна бывае найбольш пасажыраў на буйным перасадачным цэнтры дзвюх ліній метро ў Мінску.

Лічбы пацярпелых ад выбуху таксама павялічваліся, бо людзі адыходзілі ад першапачатковага шоку і сталі звяртацца за медыцынскай дапамогай і на наступны дзень. Колькасць параненых і пацярпелых перавысіла 200 ні ў чым непавінных чалавек. Ды і не так гэта важна, якая канчатковая лічба будзе ўнесена ў будучы падручнік навейшай гісторыі Беларусі.

Ужо відавочна, што наша грамадства яшчэ не забылася пра папярэдні тэрарыстычны акт у пачатку ліпеня 2008 года, калі ад выбуху на начным канцэрце з нагоды Дня незалежнасці пацярпелі 47 чалавек. Падзеі таго лета і само злачынства дагэтуль засталіся нераскрытымі, хоць адбіткі пальцаў узялі ў больш 1,3 мільёна чалавек, апыталі сотні сведкаў інцыдэнту. Магчыма, беспакаранасць дае аб сабе знаць, але страшна ад таго, што ў нашай раней ціхай і спакойнай краіне пачасціліся такія крывавыя здарэнні.

Не трэба лічыць, што толькі цяпер беларусам кінулі нейкія цёмныя сілы жорсткі выклік. Узгадаем, што яшчэ раней восенню 2005 года з інтэрвалам у тыдзень прагучалі два выбухі ў Віцебску. Ад розгнага начыння самаробных бомб там пацярпелі і атрымалі траўмы больш 40 чалавек. У мінулым стагоддзі ў нас на Беларусі ўвогуле 1997 год стаў годам "бамбістаў", калі паднялася цэлая хваля выбухаў. Найбольш гучным аказалася тады забойства кіраўніка абласнога Камітэта Дзяржкантролю па Магілёўшчыне Яўгена Мікалуцкага.

Той далёкі ад нас год стаў вельмі "ўраджайным" на выбухі. Былі зафіксаваны падрывы будынка Савецкага раённага суда ў Мінску і суда ў Заслаўлі, на газаправодзе Таржок-Мінск-Іваупэвічы, у пад'ездзе жылога дома ў сталіцы і на газакампрэсарнай станцыі Крупкі. Апошні выпадак на цэнтральнай станцыі метрапалітэна ў Мінску стаў новай вялікай трагедыяй для беларускага народа. Мы ўсе прачнуліся ўжо ў другой краіне. Акрамя Расіі адразу ж прапанавалі сваю дапамогу Беларусі ў расследванні тэракту ў сталічным метро Ізраіль і Англія. Першымі прыляцелі расійскія эксперты і ўрачы, псіхолагі.

Як ні горка ўсведамляць, але менавіта ў такі цяжкі момант наш народ праявіў свае лепшыя чалавечыя якасці. Магутнаму выбуху на месцы трагедыі простыя людзі супрацьпаставілі салідарнасць, вытрымку, не назіралася панікі, даўкі. Наадварот, пажарныя, міліцыя, медработнікі прадэманстравалі добрую арганізаванасць і прафесіяналізм. На месцы выбуху ўтварылася невялікая варонка, а магутнасць узрыву ў трацілавым эквіваленце склала каля 5 кг.

Само смертаноснае прыстасаванне было начынена рознымі металічнымі шарыкамі дыяметрам каля сантыметра і цвікамі. Яны неслі пагібель і пакуты ў асноўным для маладых людзей, хоць сярод пацярпелых ёсць жыхары іншых рэгіёнаў краіны і нашай Віцебскай вобласці. Справа гонару праваахоўных органаў адшукаць забойцаў і арганізатараў (калі гэта была нейкая групка) тэракту, каб яны потым панеслі адказнасць за зло па Закону. Загінулых ужо не вернеш, вечная ім памяць і спакой на тым свеце, а параненым хутчэй бы залячыць раны.

Адзінае турбуе, што камусьці вельмі выгадна, каб увага народа ад жыццёвых праблем напярэдадні светлага свята Пасхі Хрыстовай пераключылася на нешта іншае. Пасля тэракту праваахоўныя органы сталіцы ўзмацнілі меры бяспекі на асноўных аб'ектах жыццядзейнасці ў Мінску.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîêî³ì

www.rp5ru

| | чацвер 21.04.11 | | | | пятн. 22.04.11 | | | | сб. 23.04.11 | | | | нядз. 24.04.11 | | | | пн.25.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +2 | +6 | +15 | +10 | +6 | +8 | +15 | +12 | +7 | +7 | +16 | +11 | +4 | +10 | +17 | +12 | +6 | +9 | +16 |
| Ціск, мм | 753 | 753 | 752 | 751 | 752 | 753 | 752 | 752 | 753 | 754 | 754 | 753 | 753 | 754 | 752 | 752 | 753 | 754 | 753 |
| Вільготнасць, % | 73 | 73 | 33 | 69 | 82 | 91 | 54 | 80 | 91 | 100 | 46 | 74 | 90 | 91 | 43 | 74 | 84 | 91 | 46 |
| Вецер м/сек | Ю-З 4 | Ю-З 3 | З 3 | З 3 | Ю-З 2 | З 2 | З 3 | З 2 | С 1 | С-В 2 | С-В 2 | С-В 1 | Ю 2 | З 1 | С-З 2 | С-З 1 | В 1 | С 1 | С 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На фоне ўзмацнення эканамічных цяжкасцей буйнейшыя аўтасалоны краіны спынілі продаж іншамарак, з прылаўкаў крам пачалі знікаць замежныя тавары, прадукты і алкаголь. Многія эксперты рэкамендуюць хутчэй правесці дэвальвацыю рубля не менш 40 %. Як на здзек, у расійскім Мінфіне заявілі аб адсутнасці ўзгодненых тэрмінаў прадастаўлення РБ стабілізацыйнага крэдыту на 1 млрд. $, што прымусіла пахваляцца яе кіраўніцтва. На працягу двух месяцаў, па 30 мая ўключна, будзе сёлета ў Беларусі дзейнічаць сезонная забарона на лоўлю ўсіх відаў рыбы.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Дзеючы прэзідэнт Барак Абама выразіў балатавацца на другі па ліку тэрмін на выбарах 6 лістапада 2012 года і пачаў збор сродкаў у свой перадвыбарны фонд.

**Расія.** Глава Расспажыўнагляду Г. Анішчанка заявіў, што Беларусь незаконна ўвозіць забароненыя прадукты ў рамках Мытнага саюза, прыгразіў асіметрычнымі мерамі ў адказ.

**Кот-д'Івуар.** Толькі пасля ўмяшання вайскоўцаў Францыі і ААН удалося спыніць фактычна грамадзянскую вайну ў краіне, больш 1 млн. чалавек уцяклі адсюль за мяжу.

**Польшча.** Генпракуратура краіны адвергла пораўнаю версію тэракту, за чаго мог быццам разбіцца летась пад Смаленскам прэзідэнцкі самалёт Ту-154 Леха Качыньскага.

**Японія.** У сувязі з буйной аварыяй на АЭС "Фукусіма-1", урад краіны абявіў аб прыпыненні будаўніцтва новых ядзерных аб'ектаў, узмацніў меры бяспекі на іншых АЭС.

**Тайланд.** Зонай стыхійнага бедства былі аб'яўлены 5 правінцый краіны, ад затаплення пацярпела больш 300 тысяч чалавек, эвакуіравалі жыхароў 34 раёнаў, шэрагу курортаў.

**Літва.** Наша суседка Беларусь, як заявіў глава літоўскага МЗС Аудронюс Ажубаліс на чарговых слуханнях у АБСЕ, усё больш і больш ізалірue сябе ад аб'яднанай Еўропы.

**Грузія.** Міністэрства замежных спраў краіны і яе пасол у Мінску Георгій Чхеідзе звярнуліся ў МЗС Беларусі з просьбай не ўводзіць візавы рэжым пад ціскам Расіі.

**Італія.** Шырокі рэзананс выклікалі судовыя слуханні па справе аб быццам бы незаконных сексуальных сувязях прэм'ера С. Берлусконі з непаўналетняй стрыпцізёркай з Марока.

**Германія.** З-за праблем з фінансаваннем сёлета не быў прадстаўлены нацыянальны стэнд Беларусі на Міжнароднай выставе турбізнэсу ў Берліне і на выставах у Літве, Латвіі.

**Швейцарыя.** На працягу двух тыдняў у Палацы Нацый аддзялення ААН у Жэневе праходзіла спецыяльная выстава "Чарнобыль і Беларусь: мінулае, сучаснае, будучае".

**Чэхія.** Былы прэм'ер-міністр РБ, доктар тэхнічных навук Сяргей Сідорскі (7 гадоў кіраваў урадам) з жонкай Людмілай на працягу трох тыдняў па пуцёўцы добра адпачыў тут.

**Аргенціна.** Каля мільёна чалавек на працягу некалькіх дзён адзначылі песнямі і танцамі ў 75-ы раз фестываль віна "Вендзімія", краіна на 5 месцы ў свеце па выпуску вінаградных він.

**Бельгія.** Вучоныя краіны распрацавалі падушку "лёгкі сон", якая дапамагае вырашыць праблемы людзям, якія пакутуюць ад бяссоніцы і маюць іншыя праблемы са сном.

**Расія.** Рабочая група па гістарычнай памяці пры прэзідэнце РФ прапанавала афіцыйна нарэшце пахаваць у зямлі цела лідара бальшавіцкай партыі Уладзіміра Ульянава .

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Для атрымання чарговага крэдыту на 3 млрд. $ ва ўрадзе і Нацбанку РБ хутка распрацавалі праграму эканамічных мер і структурных рэформ, скарачэння расходаў.

**Ашмяны.** Штат мясцовай мытні павялічыўся за кошт камандзіровачных супрацоўнікаў з іншых рэгіёнаў РБ, на граніцы з Літвой ажыятаж, паток іншамарак, вялізны вываз валюты.

**Мінск.** Да 800 іншамарак сталі завозіць штодзень на аўтарынкі сталіцы, цэны на якія раптам падскочылі ў сярэднім на 1-2 тысячы USD.

**Гродна.** Акцыянеры буйных гарадскіх ААТ "Хімвалакно" і "Азот" згадзіліся на іх рэарганізацыю па прапанове канцэрна "Белнафтахім" і на аб'яднанне ў адну кампанію.

**Мінск.** Толькі ў сакавіку беларусы скупілі замежнай валюты (наяўнай і безнаяўнай) на суму 768 млн. USD, знешні доўг Беларусі наблізіўся да ўстаноўленага ліміту.

**Салігорск.** Беларуская калійная кампанія з мая будзе прадаваць угнаенні ў Бразілію і Азію па павышаных да 520 USD/тона цэнах, попыт на хларысты калій у свеце велізарны.

**Калодзішчы.** Завялі крымінальную справу супраць памочніка машыніста электрычкі, які не заўважыў, калі на станцыі пенсіянера цягнік пацягнуў па платформе, нанёс траўмы.

**Пінск.** Калектыў мясцовай мытні пасля 18 гадоў работы засмуціла рашэнне аб яе ліквідацыі і пераводзе ў склад Брэсцкай, без працы застануцца некалькі дзясяткаў чалавек.

**Кобрын.** Спіс уцекачоў з Беларусі з-пад падпіскі аб нявыездзе папоўніла рэдактар сайта "Хартыя'97" Наталля Радзіна, яна знікла за граніцай, інакш ёй пагражала 3 гады турмы.

**Ждановічы.** Трасу хуткаснай электрычкі адсюль на Мінск і другую лінію сталічнага метро злучыць перасадачны вузел, пуставаўшы вестыбюль на станцыі метро "Маладзёжная".

**Смаргонь.** Да канца года ў райцэнтры з'явіцца свой аквапарк на базе плавальнага басейна спарткомплекса "Юнацтва", на рэканструкцыю выдаткавана каля 7 млрд. рублёў крэдыту.

**Мінск.** Расійская кампанія сотавай сувязі "МТС" гатова выкупіць у Беларусі 51 % акцый сумеснага ТАА "МТС", пацвердзіў яе віцэ-прэзідэнт Алег Распопаў, але па разумнай цане.

**Гродна.** Скандалам завяршыўся тут чэмпіянат РБ па хакеі, пасля абразлівых заяў трэнера мінчан М. Захарава яго калега з Гродна паабяцаў крыўдзіцелю публічна зламаць нос.

**Слонім.** Самая вялікая сям'я райцэнтра Дзіяны і Аляксея Турук (11 дзяцей) прадала свой вялікі 2-павярховы дом, пакінула Беларусь і пераехала жыць у невялікі гарадок Канады.

**Мір.** Мясцовы замкавы комплекс атрымаў статус самастойнага 153-га па ліку музея ў сістэме Мінкультуры РБ і перастаў быць філіялам Нацыянальнага мастацкага музея.

## Öýíû íà àëåé ³ öóêàð áóäóöü ðýãóëÿâàöü Ì³í³ñòýðñòâàì ýêàíîì³ê³



**Урадам Беларусі зацверджаныя пералікі тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца.**

Адпаведнае рашэнне прынята пастановай Савета міністраў ад 14 красавіка 2011 года № 495. Дакумент уступіць у сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання, паведамляе прэс-служба ўрада.

У адпаведнасці з пастановай, у пералік сацыяльна значных тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца Міністэрствам эканомікі, увайшло 14 пазіцый. Гэта хлеб, мяса (ялавічына, свініна), малако, сухія малочныя сумесі і мясныя кансервы для дзіцячага харчавання, цукар-пясок, мука пшанічная, крупы (рыс белы шліфаваны, проса, грэцкая, манная), макаронныя вырабы, мяса птушкі, яйка курынае, масла сметанковае, алей сланечнікавы і рапсавы, агароднінныя, фруктова-ягадныя, плодаагародніныя кансервы і сокі для дзіцячага харчавання. Такса ў гэтым пераліку знаходзяцца паслугі дзіцячых аздараўленчых лагераў.

У пералік сацыяльна значных тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам, увайшлі такія тавары, як бульба, капуста, буракі, морква, цыбуля. У гэтым пераліку знаходзяцца і цвёрдае паліва, паліўныя брыкеты, дровы для насельніцтва. Вызначаны восем відаў тавараў для дзяцей, цэны на якія рэгулююцца. У лік паслуг, што аказваюцца насельніцтву, увайшлі рытуальныя (у межах мінімуму пахавальнага рытуалу); агульных аддзяленняў лазняў (за выключэннем разрадаў першага, вышэйшага і "люкс") і душавых; сацыяльныя, якія прадстаўляюцца дзяржаўнымі ўстановамі сацыяльнага абслугоўвання сістэмы органаў па працы, занятасці і сацыяльнай абароне.

Пералік платных медыцынскіх паслуг, тарыфы на якія рэгулююцца Міністэрствам аховы здароўя уключае пяць найменняў. Гэта стаматалагічныя паслугі (артадантычныя, артапедычныя і зубатэхнічныя), дыягнастычныя паслугі (лабараторная, прамянёвая, ультрагукавая, функцыянальная і эндаскапічная дыягностыка), кансультацыі лекараў-спецыялістаў (за выключэннем кансультацый замежных лекараў-спецыялістаў), прафілактычныя і абавязковыя медыцынскія агляды грамадзян. Таксама ў гэтым пераліку знаходзіцца медыцынскі агляд стану здароўя грамадзян для атрымання медыцынскай даведкі аб стане здароўя, якая пацвярджае адсутнасць проціпаказанняў да валодання зброяй, годнасць да кіравання механічнымі транспартнымі сродкамі, самаходнымі машынамі, маламернымі судамі, а таксама іншыя віды медагляду і экспертыз, якія ладзяцца па жаданні грамадзян.

Зацверджаны таксама пералік паслуг электрасувязі і паштовай сувязі агульнага карыстання, тарыфы на якія рэгулююцца Міністэрствам эканомікі.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Докшыцы.** Аднымі з першых у вобласці пачалі выбарачную сяўбу гаспадаркі раёна, на Віцебшчыне загадана ў тэрмін да 1 мая завяршыць сяўбу яравых на плошчы 257 тысяч га.

**Віцебск.** На цырымонію ўзнагароджання лаўрэатаў конкурсу "Лепшы прадпрымальнік Віцебшчыны" не пусцілі запрошанага былога кандыдата ў прэзідэнты У. Правальскага.

**Орша.** На базе ваеннага шпіталя ў пасёлку Юрцава будзе створаны сучасны абласны рэабілітацыйны цэнтр коштам 6 млрд. рублёў для пацыентаў з цяжкімі захворваннямі.

**Наваполацк.** У адной з кватэр міліцыя знайшла лабараторыю па вырабу наркотыка (амфетаміну), яе арганізавалі 25-гадовы гаспадар і 28-гадовы жыхар суседняга Полацка.

**Дуброўна.** На тэрыторыі раёна і іншых па вобласці да 1 ліпеня гэтага года будуць ліквідаваны ўсе дзейнічаючыя пункты мытнага кантролю на беларуска-расійскай граніцы.

**Віцебск.** Па дадзеных перапісу, найбольш у Беларусі на Віцебшчыне пражывае рускіх (10,2 % насельніцтва), болей 120 тысяч чалавек з 785 тысяч па РБ, пераважна ў гарадах.

**Гарадок.** У пачатку года ў раёне стала яшчэ 164 апусцеўшыя дамы на вёсцы, пасля рэарганізацыі саўгаса "Обальскі" зусім апусцела вёска з 49 двароў, закрылі школу, клуб.

**Лёзна.** Міліцыя завяла справу супраць 44-гадовага жыхара Віцебска, які па тэлефоне "замініраваў" цягнік на Смаленск, дызель затрымалі на 1,5 гадзіны, эвакуіравалі людзей.

**Глыбокае.** У намінацыі "будаўніцтва" галоўны прыз "Зорка Прыдзвіння" за перамогу ў абласным конкурсе лепшых прадпрымальнікаў года дастаўся фірме "Валпі" з райцэнтра.

**Лепель.** Райпракуратура пачала следства па факту забойства жанчыны ў вёсцы Залессе, дзе нябожчыцу збіў да смерці моцнымі ўдарамі па галаве 44-гадовы беспрацоўны.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" мытнікі зноў знайшлі ў тайніку літоўскага перавозчыка буйную партыю кантрабандных цыгарэт больш за 150 тысяч пачак 3 марак.

**Віцебск.** У мясцовую калонію "Віцьба-3" для адбывання тэрміну зняволення 4 гады прывезлі этапам 30-гадовага прэс-сакратара А. Саннікава Аляксандра Атрошчанкава.

**Наваполацк.** Цудам застаўся жывы 29-гадовы мантажнік ААТ "Наваполацкліфт", які пры ўстаноўцы новай кабіны ліфта рухнуў разам з ёй з вышыні 9-га паверха.

**Паставы.** Міністэрства культуры Беларусі правядзе сёлета XIV Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" 3-5 чэрвеня, запрошаны 13 краін свету.

**Віцебск.** Чарговы падарунак гораду зрабіў мастак Фелікс Гумен, які падараваў мясцоваму Мастацкаму музею 550 карцін акварэлі на адкрыцці сваёй выставы работ да 70-годдзя.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# А тым часам на «арэну» выходзяць браканьеры

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясна, выдатны час, вакол усё ажывае, усё часцей і даўжэй свеціць сонца, птушкі ўюць гнёзды, рыхтуюцца да з'яўлення нашчадкаў. Водныя насельнікі гэтак жа радыя вясне і актыўна адкладаюць ікру для размнажэння. Вось тым часам на «арэну» выходзяць браканьеры, яны як зграі саранчы налятаюць на рыбу, якая адкладае ікру, б'юць яе восцямі, ловяць сеткамі, мярожамі. Галоўнае, напакаваць сваё пуза, загнаць за спіртное, а потым няхай хоць воўк траву есць.**

На жаль, такіх грамадзян менш не становіцца, адны ловяць рыбу, іншыя ахвотна купляюць за капейкі, не думаючы пра тое, што колькасць рыбы ў вадаёмах не бясконцая. У краіне дэмаграфічная праблема, але да яе можа дадацца і праблема з рыбай у нашых вадаёмах, зверынай у лясах.

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі штодня выяўляюцца і перарываюцца факты браканьерства на тэрыторыі раёна, дзясяткамі канфіскоўваюцца восці, хоць вырабляюць іх не дома, а як правіла на працоўных месцах, шматлікія бачаць гэта, але маўчаць. За выраб, набыццё, захоўванне і збыт забароненых прылад рыбалоўства усталявана адміністрацыйная адказнасць ад 20 да 50 базавых велічынь – задумайцеся.

У перыяд з 1 па 17 красавіка супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі за парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства затрымана 18 браканьераў, канфіскавана больш 14 астрог, кіламетры сетак і больш 20 кг незаконна здабытай рыбы, адзін матэрыял накіраваны ў следчыя органы МУС для ўзбуджэння крымінальнай справы. У перыяд нерасту рыбы велізарную дапамогу міжраённай інспекцыі ў спыненні браканьерства аказваюць супрацоўнікі Глыбоцкага раённага аддзела Дэпартамента «Ахова», якія актыўна ўдзельнічаюць у затрыманні браканьераў, за гэта ім – велізарны дзякуй не толькі ад супрацоўнікаў міжрайінспекцыі, але і ад усіх законапаслухмяных грамадзян, рыбакоў і аматараў прыроды. З'явіліся і першыя «рэкардсмены» сярод населеных пунктаў па ліку затрыманых парушальнікаў, гэта в. Азерцы Глыбоцкага раёна. Жыхары названага населенага пункта толькі за 2 дні здзейснілі 8 фактаў браканьерства, гэта толькі тыя, каго затрымалі работнікі інспекцыі. Затрыманыя грамадзяне ўсялякімі варварскімі спосабамі, восцямі, сеткамі здабывалі шчупака, які нерастуе, а затым прадавалі яго за спіртное. Асобныя з браканьераў бравіруюць, што яны не трапіліся інспектарам і міліцыі, але колькі вяровачцы не віцца, канец заўсёды будзе.



**На рацэ Маргва ў раёне Мосара – выдатны клёў. Ловіцца буйная плотка, часам да 350 грамаў вагі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Так, 13 красавіка 2011 года на возеры Шубнікі затрыманы мясцовы жыхар гр-н Ш., які пры дапамозе сеткі спрабаваў здабыць рыбу, але не паспеў, быў злоўлены сам інспектарамі, штраф трохі астудзіць яго жаданне паесці рыбы, якая нерастуе.

У той жа вечар на ручуку, які ўпадае ў вадасховішча «Азерцы», затрыманы яшчэ два мясцовя жыхары, у якіх канфіскаваныя 2 восці і сетка, пакаранне іх чакае прыстойнае.

14 красавіка 2011 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага РА Дэпартамента «Ахова» на возеры Свідна затрыманы жыхар в. Дунілавічы Пастаўскага раёна грамадзянін П., які з дапамогай мярожы здолеў здабыць 135 асобінаў розных відаў рыбы, але і сам трапіўся ў сеткі, расстаўленыя для злову браканьераў супрацоўнікамі інспекцыі, шкода прычыненая прыродзе склала амаль 5 млн. рублёў. Матэрыялы для дачы прававой адзнакі дзеянням парушальніка перададзены ў Пастаўскі РАУС.

Можна шмат прыводзіць прыкладаў браканьерства, толькі толку ад гэтага як мы ўсе бачым мала, а таму супрацоўнікі інспекцыі, міліцыі, грамадства будуць самым цвёрдым чынам перарываць парушэнні і караць парушальнікаў аж да крымінальнай адказнасці.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі просяць усіх неабыякавых грамадзян аказаць дапамогу ў барацьбе з браканьерамі, не быць абыякавымі да захавання нашага жывёльнага свету.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: «гарачая лінія», 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

# Пасяўная без электратраўмаў і аварый

■ А.Н. Ішуцін,
*інспектар Глыбоцкай інспекцыі Энерганагляду.*

**Вясна пара масавых сельскагаспадарчых работ, якія часта праходзяць паблізу ці пад паветранымі лініямі электраперадач. У сваю чаргу тэрыторыі ахоўных зон ліній электраперадач не выводзяцца з сельскагаспадарчага звароту ці іншага выкарыстання.**

Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэння звычайных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак усталёўваюцца ахоўныя зоны. І не выкананне правілаў работы ў ахоўных зонах электраперадач часцяком прыводзяць да няшчасных выпадкаў.

Парадак і ўмовы вытворчасці работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгодненыя з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

У ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

- ужыванне высокагабарытных машын і механізмаў, без дамовы з уладальнікам электрычных сетак і нараду-допуску;
- прыпынак машын і механізмаў;
- транспартаванне высокагабарытных грузаў;
- знаходжанне абслугоўвага персанала на аўтамашыне, трактары, камбайне па-за кабінай ці ахоўнага казырка;
- праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання ці да няшчасных выпадкаў.

Кіраўнікам гаспадарак неабходна правесці навучанне і інструктажы па электрабяспецы з усімі механізатарамі, якія ўдзельнічаюць у пасяўной кампаніі.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 «Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

# На сувязі – тэатр

■ Марыя Баравік,
*г.п.Падсвілле.*

*У зале нягуста гледачоў, а я кажу:*
*Хай конкурс сцэну адкрывае,*
*І зала рукі саграва́е –*

*Апладысментамі вірыць –*
*І просіць: "Дзею паўтарыць!"*
*Глядач (і крытык, і аматар)*
*З табой на сувязі – тэатр.*

Я ўжо прадчуваю, што буду на сувязі роднамоўнай. Сёлета на абласным аглядзе-конкурсе маладых аматарскіх тэатраў сельскіх установ культуры (у Падсвіллі) мне прапанавалі ўкліцца словам на адкрыцці гэтага свята. І я згадала 2-ю палову 60-х гадоў, калі Падсвілле стала тэатральным ад творчага імпэту Зоі Зарыцкай (Арловай, якая жыве ў Падмаскоўі). Яна перавяла тады творы з украінскай мовы на родную і паставіла спектаклі на сцэне старога Падсвільскага ДК. Ад сябе я шчыра вітала сельскіх удзельнікаў драматычных калектываў за шанаванне найбольшай каштоўнасці нашай культуры -- роднага слова.

У першы дзень я змагла пабачыць толькі відзаўцаў з Браслаўшчыны. Яны паказалі "Трыбунал" Макаёнка. На добрым узроўні мастацкасці. Пабачыла пачатак выступлення гурта "Свавольнікі" матыранцаў з Ушаччыны. Пазахапляла́ся дэкарацыяй: асверам над студняй, шчэбетам птушак і сакавітай гутаркай жанчын – герояў "Благаўскіх салаўёў". Пазней пачула ад Наталлі Аўласевіч, што цікава выступіў камайскі гурт "Сваякі".

Я прыйшла на выступ падсвільскіх жартаўнікоў-перасмешнікаў. А іх на сцэне, як апеняк на карчы, шмат, і зусім маладзенькіх, і крыху старэйшых. Адных хлопцаў, якія іграюць ролі за дзяўчат (так, мусіць, для смяшлівасці, задумана рэжысёрам). І я ўзгадала сваіх (у былым ўжо, лялечнікаў-хлопчыкаў маёй "Смяшылкі") і сябе ў тым вянку.

Дык вось усе гэтыя надзвычай жвавыя акторы ігралі выключна азартна, выразна, дружна ўлітыя ў мастацкасць Тамарай Уладзіміраўнай Спяцанавай. Яны, літаральна, круцілі, як жаронцы, "Казку пра Ямелю-гультая", віхурай. Малайцы! Адно – твор быў рускамоўны, а мне хацелася, вельмі хацелася, беларускасці, роднасці, бо ў Падсвіллі хоць бы на сцэне чуць выразнае, канкрэтнае, трапнае роднае слова. І, каб не называць гурт "Ідучыя на смех", бо ў беларускай мове няма "ідучых" – ёсць "якія ідуць". Назва можа быць, ці "Перасмешнікі", ці "Пацешнікі" ці "Смехатворцы" у залежнасці -- якое з іх больш семантычна дакладна дапасуецца да ідэі гурта.

Дзень 10-га красавіка вывеў на сцэну актораў калектыву "Несцерка" Валынецкага ДК Верхнядзвіншчыны, народны драмкалектыў Дзеркаўшчынскага Цэнтра культуры нашага раёна, (яны выступілі вельмі забаўна), тэатральны калектыў радзюкоўцаў Шаркоўшчынскага раёна і параф'янаўцаў Докшыцкага.

І сёння мне ўдалося пабачыць толькі – валынечан і дзеркаўшчанцаў. І зноў "Трыбунал", у пастаноўцы ўдзельнікамі-параф'янаўцамі.

Мне спадабаўся тут вобраз галоўнага героя -- старасты. І я ўжо не вытрымала, каб не закрануць цікаўнасцю асобу выканаўцы, калі праходзіў побач. Назваўся Тадэвушам Цягановічам. Яму 69 гадоў, і – пасля аперацыі (страўнік выразаны). Так і сказаў. Сімпатычны чалавек і таленавіта выканаў ролю. Я не памылілася ў здольнасці – бо актор трапіў і на заметку журы. Гэтая камісія кампентэнтная, прафесійная і тактоўная -- падыйшла з дастатковай меркай да актораў і гуртоў.

Але я маю на думцы зусім іншае. Людзі, якія маюць у сабе іскру, твораць не за ўзнагароду. Яна не заўсёды даганяе іх. Яшчэ я звярнула ўвагу на такую акалічнасць: агляд жа моладзевых калектываў (так аб'яўлена), але ў галоўных ролях занятыя, у большасці, немаладыя людзі, пенсіянеры. Вёска гасне?..

Людзі нашых вёсак, якія яшчэ сяк-так ліпаць жыццём і дыхаюць народнай мастацкасцю – малайцы. Яны трымаюць тут беларускасць. Усе вясковыя калектывы выступілі пабеларуску, па-роднаму, да высокай ступені натуральна. За гэта ім дзякуй ад Беларускай радзімы.

На завяршэнні свята агляду былі ўручэнні Дыпломаў трох ступеняў і памятных падарункаў. Калектыў відзаўскіх актораў выйшаў на другое месца. Трэцяе -- у народнага драмкалектыву Дзеркаўшчынскага ЦК. За ўзровень выканання Дыпломы атрымалі асобныя выканаўцы з гуртоў. Усім гуртам уручылі Дыпломы за ўдзел. У паўпустой зале стаялі авацыі саміх удзельнікаў. Усё роўна ўсім хочацца ж быць пераможцамі. І гэта натуральна. І нашым, перасмешнікам, якія ўхапілі высокую пахвалу агульнакалектыўную, і (прынцэса з казкі) Сяргей Гірстун ці не першы ў жыцці Дыплом?

І ўсе павінны разумець, што ў калектыўным дзеянні дачыненне да пераможцы маюць усе.

# Глыбоцкая моладзь заклікала не быць абыякавымі да ахвяраў тэракту

■ Кастусь Шыталь

**Навіна пра тэракт у мінскім метро не пакінула абыякавай глыбоцкую моладзь. 13 красавіка маладзевая ініцыятыва “Live funny” правяла ў Глыбокім акцыю салідарнасці з пацярпелымі ад тэракту.**

Дзякуючы абвесткам, якія днём раней былі распаўсюджаныя ў інтэрнэце, на Цэнтральнай плошчы сабраліся паўтары дзясяткі школьнікаў. Некаторыя з іх адпрасіліся для гэтага з урокаў.

Перад пачаткам акцыі да маладзёнаў падышла настаўніца з адной з глыбоцкіх школ і передала арганізатарам грошы, сабраныя вучнямі.

Удзельнікі акцыі раздавалі гараджанам улёткі з нумарамі банкаўскіх рахункаў, на якія можна пералічыць грашовыя сродкі для пацярпелых ад выбуху. Яны заклікалі глыбачанаў не быць абыякавымі і дапамагчы ахвярам. Усяго было раздадзена больш за трыста ўлётак.

Гараджане па-рознаму рэагавалі на прапанову дапамагчы ахвярам трагедыі. Шмат было і такіх, якія адмаўляліся браць улёткі і абыякава махалі рукой.





## Падчас тэракту на станцыі метро «Кастрычніцкая» была паранена глыбачанка

■ Кастусь Шыталь

**Падчас тэракту на станцыі метро «Кастрычніцкая» ў Мінску была паранена глыбачанка Юлія Самуйла, 1987 году нараджэння.**

На наступны дзень пасля трагедыі аўтар гэтых радкоў звязаўся па тэлефоне з Вітольдам Самуйлам, бацькам Юліі. Па словах спадара Вітольда, Юліі зрабілі аперацыю, дасталі два асколкі. Пасля аперацыі Юлію перавялі з рэанімацыі ў звычайную палату. Пакуль невядома, колькі часу дзяўчыне давядзецца правесці ў шпіталі.

Спадар Вітольд распавёў, што ўвечары 11 красавіка Юлія вярталася з працы (працуе ў Нацыянальным аэрапорце). Калі цягнік прыбыў на станцыю метро «Кастрычніцкая», Юлія падышла да выхаду з вагона – і ў гэты момант адбыўся выбух. З параненай нагой дзяўчына не магла ісці, але невядомы мужчына дапамог ёй выбрацца са станцыі.

# А ці ўсміхацца сёння?

## або Чарнобылю – 25

■ Марыя Баравік, *г.п.Падсвілле.*

**Успомнім тое, што адбылося 25 гадоў назад. І 25 было ўжо ў той час Сяргею Мікалаевічу Клімовічу.**

Бацька Мікалай Іванавіч (ён быў галоўным урачом нашай бальніцы) прыехаў ў Гомель, у госці да сына. А яго не падпускаюць – ачапленне. Там машыны, нагружаныя сыпучым бетонам, бетонамяшалкамі. І каманда – на Чарнобыль!

Так і вярнуўся, не пабачыўшы сына. Ды і не мог зразумець, што да чаго. Мы ўсе яшчэ не ведалі пра страшэнную бяду ў тую цёплую вясну. І не мелі ўяўлення пра радыяцыю. Баяліся жоўтага налёту ў лужынах ад кветак.

Сёння перада мной “Знамя юности” за 5-га сакавіка 1987 года. Перадавая старонка аб’яўляе 28 з’езд ЛКСМ Беларусі. На ёй – фантан патэтыкі пад рубрыкай “На крутом переломе”, пад загалоўкамі “Весна обновления”, “Какой будет правда – такой будет вера”. Гэтая “праўда-вера” апрытомнела праз нейкія тры гады. Далей мы пачнем разумець, што Чарнобыль быў увесь час, пакуль фармаваўся “савецкі характар” – распаўсюджваўся на мозг, на псіхіку на...

Чытаеш пра ліквідацыю чарнобыльскай бяды, а там усюды аптымізм... “Вокруг уже летал ореол популярности... Телевидение, корреспонденты газет. А он всё ещё не привык к своему особенному положению, смущён”.

Нібы і правільна. Ордэн Леніна за так не даюць. Але якая неадпаведнасць эмоцый! А клопат аздараўлення? Ах! – На тыдзень у “Залатыя пяскі” прафілакторыя аб’яднання. І падумаць толькі! – Бясплатная пуцёўка ў санаторый (як паведамляе “Звязда” 11 чэрвеня 1986 года). А колькі яшчэ пуцёвак давалі? Сям’і? Дзецям? Маці кажа: “Пазней ён ужо не трапляў у санаторыі”...

На фотаздымку (дзе – у поўны рост) Сярога сумеўшыся стаіць, як былінка, І, нібы, думае: “Чаго мне ўсміхацца?”. “Заданне выканалі”, – кажа артыкул. Безумоўна! Сумленная душа пойдзе і ў агонь. Што застаецца рабіць? І сам сабе, і сваёй зямлі, населенай Бедалыгамі, паспачуваеш. І, маўляў, дзе выхоўваўся? “ Десятилетка, потом автошкола при ДОСААФ, армия. Всё это – ступеньки зрелости, когда




взрослела душа, формировался характер…”

Хутчэй за ўсё там фармаваліся прафесійныя навыкі. Цяпер мне здаецца, што душа расце ад сумленнасці бацькоў, іх натуральнасці ў жыцці Ад асабістага сумлення, якое на пачатку даецца, ці не звыш?

Тым трагічным спякотным летам хлопцы працавалі бліжэй, чым у паўтара кіламетрах ад рэактара. Вазілі на машынах гатовы бетон, сухую бетонную сумесь.

Потым на пытанне начальніка: “Хто – на 4-ы рэактар?” сумленныя людзі адгукнуліся – Шылакоў, Скобелеў, Храменка і Клімовіч – парамі, у проціваґазах, працавалі каля рэактара.

– Мне Сярожа ніколі нічога не расказваў, – глядзіць на мяне са слязамі Іна Георгіеўна, – але сябар... Ён сказаў, што паўтара метра дзяўблі сценку ў проціваґазах. Дыхаць было нечым. Праз кожных 20 хвілін выбіраліся ў калідоры – піць. Пот градам. Есці – было там усё пастаўлена. Але зусім не хацелася. Ад такой працы. Не елі. Толькі піць хацелася. Сівы стаў сынок... З шасцярых чатыры памерлі, застаўся Сярожа і другі з групы.

На пахаванні Мікалая Іванавіча я водаль спачувальна назірала. Сярожа быў у глыбокім перажыванні, у слязах і без рукавіц, без шапкі. А – мароз...

Я прыйшла па здымак Сяргея. А Іна Георгіеўна паставіла перада мной стэнд з партрэтам сына, узнагароджанага Ордэнам Леніна і плача: “Знайшла на школьным сметніку. Няхай бы мне аддалі...Скажыце, зрабілі б гэдак вы?..»

Ну, што тут скажаш? Над чым задумаешся (хто выкінуў) можа над фразай: “...фармаваўся характар ... савецкі”?

...І зноў АЭС? Сёння? У Беларусі? Такой бядовай...

Такі прагрэс, што – страх ад АЭС.

Такі прагрэс, што – смяротны стрэс...

11 красавіка 2011 года. Чарнобыль?..

Вось такімі мы сталі крылатымі:

На свабодзе страшней, чым за кратамі.

Сяргей Мікалаевіч Клімовіч ступіў у другое паўстагоддзе. Маці глядзіць з надзеяй і слязой на партрэт на стэндзе. Ідэю – напісаць – падаў Мар’ян Мечыслававіч Місевіч. І я разважаю. Пра тое, што на Радзіме не забываюць. І па заслугах тым больш. Нягледзячы, куды можа трапіць партрэт ці сам чалавек...



### Спачуванне

Паважаны Станіслаў Мікалаевіч Германовіч, прыміце шчырыя спачуванні у сувязі з напаткаўшым Вас горам – смерцю дзядулі.

*Сядова Н. У., сям’я Скрабатуноў.*

■ І.Дубовік,
*інжынер па ахове лесу «Глыбоцкі доследны лягсас»*

# Беражыце лясы ад пажараў!

Як вядома, ахове прыроды і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў апошнім часам надаецца асабліва важнае значэнне. Сярод важнейшых рэсурсаў прыроды лес займае цэнтральнае месца. Значэнне лесу ў жыцці чалавека выключна вялікае і пераацаніць яго проста нельга. Лес выконвае самыя разнастайныя функцыі: водаахоўную, водарэгулюючую, глеба-і полеахоўную, аздараўленчую і іншыя. Лес - гэта сапраўдныя «лёгкія» нашай планеты. Ён з'яўляецца пастаянным пастаўшчыком кіслароду ў паветра, гіганцкім фільтрам, які ачышчае паветра ад пылу, сажы і іншага бруду. Так, адзін гектар сасновага дрэвастою кожны год затрымлівае 36 тон пылу і розных прымесяў, а гектар дубовага дрэвастою – 56 тон.

Лес кліча і прыцягвае нас дзіўным светам, спакойнай веліччу, духмяным водарам і цішынёй. Лес – гэта дом звяроў і птушак, грыбоў і ягад, карысных насякомых і лекавых раслін, гэта – цэлы свет са сваім жыццём, сваімі законамі. Улетку і ўвосень лес адорвае нас сваімі вітамінными дарамі: грыбамі, ягадамі, лекавымі травамі і іншым. Чалавек не ўяўляе свайго існавання без «зялёнага дома адпачынку». Наведваючы лес, чалавек па сваёй неасцярожнасці або няведанню можа зрабіць яму вялікую шкоду. Асабліва значныя страты лесу прыносяць пажары. Страты ад іх – гэта не толькі загінуўшыя або пашкоджаныя агнём дрэвы. У выніку лясных пажараў знішчаецца натуральнае аднаўленне лесу, у аслабленых агнём пасадках узнікаюць ачагі шкодных насякомых, якія потым знішчаюць лясы. Агонь знішчае кармавую базу звяроў і птушак, на яго тушэнне прыцягваюцца вялікія сілы працаўнікоў лясной галіны. Кожны дзень на дзяжурства заступаюць работнікі лясгаса і лясніцтваў, каб у любы момант прыступіць да ліквідацыі пажараў. Але лясны пажар лягчэй папярэдзіць, чым з ім змагацца, а для гэтага трэба выконваць наступныя правілы пажарнай бяспекі. Катэгарычна забараняецца распальваць вогнішчы ў пасадках хвойных маладнякоў, на ўчастках пашкоджанага лесу (ветравал, буралом), на тарфяніках, лесасеках з пакінутымі рэшткамі нарыхтаванай драўніны, у месцах з падсохлай леташняй травой, а таксама пад кронамі дрэў. У астатніх месцах агонь дазваляецца разводзіць выключна на пляцоўках акаймаваных мінералізаванай паласой (ачышанай ад мінеральнага слою глебы) шырынёй не менш як 25 см. Перад тым як пакінуць месца адпачынку, неабходна ў абавязковым парадку засыпаць вуглі ад кастра зямлёй ці заліць вадой да поўнага спынення тлення галавешак. Думаю, не лішне напомніць наступнае. Ні ў якім разе нельга кідаць у лесе непатушаныя запалкі, акуркі, вытрасаць з курыцельных трубак гарачы попел, выкарыстоўваць у час палявання на дзікіх звяроў пыжы з лёгкіх на ўзгаранне або тлеючых матэрыялаў, выпальваць на лясных палянах, прагалінах, на землях дзяржаўнага лясного фонду і на зямельных участках, непасрэдна прымыкаючых да лесу сухую траву.



У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, віноўныя ў парушэнні правіл пажарнай бяспекі ў лясах і на тарфяніках або забароны на іх наведванне падвяргаюцца штрафу ў памеры да 25 базавых велічынь, а калі парушэнне правіл пажарнай бяспекі прывяло да ўзнікнення ляснога пажару, грамадзяне падвяргаюцца штрафу ад 25 да 50 базавых велічынь. Пры выяўленні ачагу пажару грамадзяне павінны неадкладна прыняць неадкладныя меры па яго тушэнню, а пры немагчымасці ўтаймаваць агонь уласнымі сіламі – паведаміць аб месцы загарання работнікам лясной аховы па тэлефону 8-(02156) 2-26-04, або у МЧС по телефону 101. Паважаныя грамадзяне! Беражыце неацэнны падарунак прыроды – лес ад пажараў! Ахова лясных багаццяў - усенародная справа.

# Віншаванкі

*Данату Паўлаўну Ючковіч*

**Віншуем з 55-годдзем!**

День рожденья - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.

*Ад сям'і Грыбко, Ючковіч і ўнучак.*

*Ірыну Станіславаўну Валынец*

**Віншуем з юбілеем!**

Пусть будет счастье и здоровье,
И пусть на всё хватает сил.
И каждый день обычной жизни,
Чтоб только радость приносил.
Пусть солнце светит для тебя,
Пусть век твой долго-долго длится.
И в дверь твою пусть никогда
Болезнь и горе не стучится.
И дай тебе Господь, ведь это в его власти,
Здоровья, долгих лет и очень много счастья.

*Ад сем'яў Лаўрыновіч, Мурзіч, Пілімон.*

*Таццяну Сіўко*

**Віншую з нагоды Дня нараджэння**



Пусть будет жизнь полна веселья, смеха,
Пусть в сердце вечно молодость живёт.
Желаю бодрости, здоровья и успеха
На много-много лет вперёд!
И сколько б лет ни стукнуло тебе
Поверь, не стоит их бояться.
Желаю счастья светлого в судьбе,
Твои года - твоё богатство!

*Жэня*

■ С.П. Пятух,
*начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС*
**Тэл. 2-17-60.**

## Для правядзення мерапрыемства былі задзейнічаны ўсе службы Глыбоцкага РАУС

**З 4 па 13 красавіка 2011 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было праведзена адмысловае комплекснае мерапрыемства «Нагляд». Для правядзення дадзенага мерапрыемства былі задзейнічаныя ўсе службы Глыбоцкага РАУС, а таксама супрацоўнікі аддзела Дэпартамента аховы МУС РБ.**

Дадзенае мерапрыемства праходзіла ў некалькі этапаў. Падчас падрыхтоўчага этапу былі распрацаваны план-заданні для ўсіх удзельнікаў дадзенага мерапрыемства з мэтай правядзення праверак усіх раней асуджаных асобаў, якія знаходзяцца на ўліку.

На ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС знаходзяцца 320 асобаў, у тым ліку да пакаранняў, якія не звязаныя з пазбаўленнем волі – 133, тых, якія мелі не знятую і не згашаную асуджанасць пасля адбывання пакарання – 185 з іх паднаглядных – 7, фармалістаў – 48, іншых асобаў, якія знаходзяцца на ўліку – 130.

За час правядзення мерапрыемства па месцы жыхарства былі правераныя ўсе асобы, якія знаходзяцца на ўліку, начных праверак – 31 і 26 кантрольных праверак, асобам, якія парушаюць адміністрацыйнае заканадаўства, вынесеныя афіцыйныя папярэджанні. Пастаўлена на ўлік да лекара нарколага – 5 чалавек. Аказана дапамога ў працаўладкаванні – 5 чалавекам. У адносінах дваіх асобаў узбуджаныя дзве крымінальныя справы за ўхіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі і ў адносінах адной асобы за ўхіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе выпраўленчых работ. 11.04.2011 года судом Глыбоцкага раёна ўсталяваны адзін прэвентыўны нагляд і адзін прэвентыўны нагляд падоўжаны. У адносінах дваіх асуджаных, якія адбываюць пакаранні не звязаныя з пазбаўленнем волі за парушэнне ўсталяваных абмежаванняў былі вынесены спагнанні ў выглядзе вымоў. Выяўлена і разгледжана ў судзе Глыбоцкага раёна пяць парушэнняў прэвентыўнага нагляду.

■ А.П. Салодкі,
*інспектар ІДН Глыбоцкага РАНС.*

# Усталюй АПА!

Аўтаномны пажарны апавяшчальнік (АПА) трывала ўвайшоў у наша жыццё са словамі:

**– Гэта не рэклама пральнага парашка!**

Відавочныя перавагі АПА нароўні з сучасным дызайнам забяспечылі распрацоўцы Навукова - даследчага інстытута шырокі распаўсюд у народных масах. Не патрабавальны да адмысловага догляду (досыць раз у тыдзень прапыласосіць бытавым пыласосам), матэрыяльных выдаткаў падчас эксплуатацыі і параўнальна недарагі ён заслужыў любоў асабліва ў пажылых людзей. Дзеянне АПА заснавана на змене аптычнай шчыльнасці паветра ў сярэдзіне адмысловай камеры, г.зн. пры трапленні часціц дыму ўнутр гэтай камеры кантрольны прамень прыбора пераламляецца ці часткова слабее, размыкаючы ланцуг. У выніку характэрны рэзкі гук апавясціць жыхара пра задымленне памяшкання.





Такім чынам, АПА не проста прыгожая белая скрыначка, з якой мігаціць чырвоным вокам на вашай столі. Гэта гарант вашай бяспекі. Ваша бяспека ў вашых руках.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

25 красавіка – 1 траўня 2011 г.













Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Вызразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 25 красавіка



**06.00,07.00,08.00,09.00, 12.00**(ссурдопереводом), **13.00,14.00,15.00,16.00, 17.00,18.00,19.00,23.50** Новости.
**06.05,07.10,08.15**«Доброеутро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10 "Маргоша"**.
**10.05** Женское ток-шоу
**11.00"Затмение"**.Зак.сер.
**12.10 "Путешествие во влюбленность"**..
**14.15** Синематека.
**15.20,19.10**Новостирегиона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 "Маршрут милосердия"**
**17.25 "Маруся. Возвращение"**.1с.
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 00.30** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Чернобыльский шлях»
**19.55 "Маргоша"**.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка
**22.00"С чистого листа"**. Триллер
**00.00**«Проверкаслухов».
**00.40** День спорта.
**00.50** Хоккей для всех.



**06.00,09.00**Нашиновости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10**Тележурнал«Союз».
**11.50**«СписокГиммлера».
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10**«Контрольн.закупка».
**13.45**«Модныйприговор».
**14.50**«Понять.Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо**
**17.05«Словоженщине»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Промысел Божий. Испытание верой».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Открытый формат».
**22.10 «Испанский английский».**
**00.35 «Крем»**
**01.3002.00**Ночн.новости.



**06.30 "Универ"**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.00 "Легенда острова Двид"**
**11.05** Пра мастацтва.
**11.35** Школа ремонта.
**12.35**«Тыто,чтотыешь».
**13.10** Час суда
**14.10"Силапритяжения"**
**15.05**«Дети нового поколения».9-е кл
**16.10** Внеклассный час.
**16.25 «Кулинария для детей».**Мультфильм.



**16.35** Новости погоды.
**17.05 Анатомия Грэй5**
**18.00 "Ты моя жизнь"**.
**19.05"На войне как на войне"** (СССР).
**20.50** Калыханка.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Белорусское времечко.
**22.20 "Интерны"**
**22.55 "Универ"**
**23.35** Овертайм.
**00.05**Футбол.Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**01.00 Анатомия Грэй5**

СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35**«Большойзавтрак».
**10.10** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Держименякрепче».
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом«Секретно»: «Пирамиды. Связь со Вселенной».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**

**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30**«Кинопонедельник»: **"АРТИСТКА"**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00**«Столичныйфутбол».
**23.30** «Кино»: **"ОДНОКЛАССНИКИ"**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 "Час гонару"**: 26 с.
**8:20** «Тутэйшыя» ч. 1
**9:10 "Quo Vadis"**: 1 с
**10:00** Канцэрт царкоўнай музыкі: ч. 1
**10:30** «Паэма веры»,
**10:55** Прэс-экспрэс
**11:10** «Белая яблыня грому» ч. 1
**11:40** Два на два
**12:05** «Фаду»
**13:05** Моўнік
**13:35** «Тутэйшыя», ч. 1
**14:30** "Quo Vadis": 1 с
**15:15 Быць Джульяй**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05"ПіпіДоўгаяпанчоха»**:
**17:35** «Прывід з Давыд-Гарадка»
**17:50** «Белая яблыня грому» ч. 2
**18:15** «Катка»
**20:00** Калыханка для самых маленькіх
**20:10** «Тутэйшыя», ч. 2
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55 Быць Джульяй**.
**23:35** Аб'ектыў

